№196 (2009)
Аўторак, 19 кастрычніка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +7...+9, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +6...+8, уначы — +5...+7, на працягу сутак — дождж; у Гомелі ўдзень — +6...+8, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Магілёве ўдзень — +6...+8, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж.

*www.meteo.by*

# Тое, што адбылося ў Беларусі, усхвалявала не толькі беларускі народ, але і ўвесь цывілізаваны свет

## Ярмошына стукала, стукала па дрэве... І дастукалася

Недарэмна ўсё ж такі падчас сваіх прэс-канферэнцый, якія ладзіліся кожныя дзве гадзіны ў нядзелю, 17 кастрычніка, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі (ЦВК) **Лідзія Ярмошына** заяўляла, што, маўляў, *"давайце пастукаем па дрэве, каб толькі рэферэндум адбыўся"*. Дарэмна, на наш погляд, Лідзія Міхайлаўна хвалявалася і траўміравала свае слабенькія жаночыя пальчыкі аб драўляную паверхню: усё адбылося так, як і было задумана.

Удзел у выбарах і рэферэндуме, згодна з данымі Л.Ярмошынай, *"узялі **89,73** працэнта выбаршчыкаў, за змены ў Канстытуцыі выказаліся **77,3** працэнта грамадзян, унесеных у спісы для галасавання"*.

*"Я лічу гэта элегантнай перамогай"*, — сказала старшыня Цэнтрвыбаркама на прэс-канферэнцыі і працягнула: — *Калі б гэтага рэферэндуму не было, то яго варта было б выдумаць, бо рэферэндум садзейнічаў згуртаванню нацыі"*.

Арыгінальна Лідзія Міхайлаўна выказалася і на пытанне наконт скаргаў, якія сведчаць аб парушэннях падчас выбараў: *"Да, высылают мне наблюдатели от так называемых политических партий акты о всякой ерунде"*.

Зусім іншыя вынікі рэферэндуму дае сусветна вядомы інстытут Гэлапа ("The Gallup Organization"). Гэтыя лічбы агучыў позна ўвечары лідэр незарэгістраванага руху "За справедливые выборы", былы старшыня Савета Рэспублікі **Аляксандр Вайтовіч**. Згодна з гэтымі данымі, за "палітычную бессмяротнасць" Лукашэнкі маглі выказацца толькі **48,3%** ад агульнай колькасці выбаршчыкаў (паводле афіцыйных даных, нагадаем, — 77,3%).

*"Апытанне выбаршчыкаў, якія збіраліся 17 кастрычніка ісці на галасаванне, і тых, хто прагаласаваў датэрмінова, праводзілася на 150 участках 20 выбарчых акруг"*, — паведамляе А. Вайтовіч. Усяго падчас папярэдняга галасавання былі апытаны 19.205 чалавек. Вынікі галасавання па рэгіёнах, згодна з даследаваннем Інстытута Гэлапа, такія: "так" Лукашэнку ў Брэсцкай вобласці адказалі **49,7%** выбаршчыкаў, унесеных у спісы, у Віцебскай — **35%**, у Гомельскай — **62,2%**, у Магілёўскай — **58%**, у Гродзенскай — **56,9%**, у Мінскай — **68,1%**, у Мінску — **30,5%**.

Якім лічбам верыць — Лідзіі Ярмошынай альбо Аляксандра Вайтовіча, вырашаць вам, паважаныя чытачы. Нагадаем, што дзеля таго, каб зрабіць Лукашэнку "вечным прэзідэнтам", згодна з цяперашняй Канстытуцыяй, "за" павінны сказаць больш за 50% выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання. І, калі верыць даным Інстытута Гэлапа, папраўка ў Канстытуцыю не прайшла...

У штабе дэмакратычных сіл, які размяшчаўся ў нядзелю ў сядзібе БНФ, таксама не падзялялі афіцыйнага аптымізму наконт вынікаў выбараў і рэферэндуму. Прадстаўнікі кааліцыі **"5+"** распавядалі пра шматлікія парушэнні, якія мелі месца падчас выбараў. Так, на думку старшыні партыі БНФ **Вінцука Вячоркі**, 17 кастрычніка адбылася *"незаконная падзея агульнанацыянальнага маштабу"*. *"Мы, выбаршчыкі, ставім толькі адзін подпіс у табліцы, дзе ўзгадваецца слова "выбары"*, — працягнуў В. Вячорка. — *Слова "рэферэндум" у гэтай табліцы няма. Паставіўшы толькі адзін подпіс, мы атрымліваем на рукі два бюлетэні — адзін па выбарах, другі — па рэферэндуме. На маё пытанне, на падставе якога закона, інструкцыі, рашэння ЦВК мне выдаюцца два бюлетэні за адзін подпіс, ні старшыня камісіі, ні члены камісіі нічога не адказалі. Дакладней, яны спасылаліся на нараду ў Ярмошынай, дзе ім усім сказалі, маўляў, "что вам еще надо?". Я напісаў скаргу, але яе адмовіліся ў мяне прыняць..."*

Першы сакратар ПКБ **Сяргей Калякін** дадаў, што прызнанне вынікаў рэферэндуму будзе вялікай праблемай для ўлады, бо няма дакументальнага пацвярджэння таго, што народ прымаў удзел у рэферэндуме. Сяргей Іванавіч таксама зазначыў, што на выбарчых участках масава парушалася дырэктыва № 1: *"У школах прадаюцца спіртныя напоі і пад п'яную музыку ідзе галасаванне. Ідзе подкуп выбаршчыкаў. Прадукты і спіртныя напоі рэалізуюцца па заніжаных цэнах, а дзесьці і ўвогуле раздаюцца бясплатна"*.

Акрамя апазіцыйных палітыкаў, у нядзелю да журналістаў звярнуліся і музыкі, у якіх пасля выступлення на вядомай акцыі 21 ліпеня, якая была прымеркавана да 10-годдзя праўлення Лукашэнкі, сталі ўзнікаць *"вялікія праблемы"*. Вось што на гэты конт сказаў **Аляксандр Памідораў:** *"Пасля ўдзелу ў гэтай акцыі забаронены для ратацыі ў эфіры на радыё і тэлебачанні, а таксама ў дзяржаўных газетах матэрыялы аб калектывах "Палац", "N.R.M", "Drum Ecstasy", "Нейра-Дзюбель", "Крама" "Zet", "Pomidor/OFF" і Зміцеры Вайцюшкевічу. Таксама па надуманых прычынах забараняюцца канцэрты названых калектываў. У чым прычына? Акцыя ж была дазволена, і мы нічога не парушалі..."*

Што тычыцца агульных уражанняў карэспандэнтаў "Народнай волі" ад наведвання выбарчых участкаў у Мінску, то яны ў сваёй большасці адмоўныя. Напрыклад, пасля паўтары гадзіны, праведзенай на выбарчым участку №130, што ў Ленінскім раёне Мінска, у нас склалася ўражанне, што там адбываюцца не выбары, а вясковыя танцы. Устойлівы водар перагару (ён ішоў часцей ад прадстаўнікоў мужчынскага полу ўзростам ад 30 да 60 гадоў), жарты і перасмешкі накшталт: "Ты мяне паважаеш?", "Дзе тут можна прагаласаваць за Лукашэнку?", "О, падманулі, гады, што будуць у продажы танныя памідоры!", а таксама бясплатная раздача піва ўсталёўвалі незабыўную атмасферу святочнага народнага волевыяўлення. Амаль аднолькавая карціна назіралася і на іншых участках, якія нам давялося наведаць.

Каб гэтую атмасферу адчулі і маладыя, на выбарчым участку №640, напрыклад, які размясціўся ў сярэдняй школе № 108 г.Мінска, бясплатна выдавалі піва нават 18-гадовым юнакам, якія галасавалі першы раз у сваім жыцці... Каб паступова прывыкалі, мусіць, да больш моцных напояў.

На выбарчым участку, што размясціўся ў школе №4 г.Мінска, паведамляе Радыё Свабода, фотакарэспандэнту ўдалося сфатаграфаваць стос выбарчых бюлетэняў з праастаўленымі загадзя значкамі "за" ў бюлетэні рэферэндуму. Старшыня ЦВК Л. Ярмошына тым не менш гэтую інфармацыю абвергла, назваўшы фотаздымкі "калажамі"...

Учора раніцай Цэнтрвыбаркамам былі таксама падведзены папярэднія вынікі парламенцкіх выбараў. Згодна з імі, у "палатку" не прайшоў ніводны кандыдат, які прадстаўляе апазіцыйныя палітычныя партыі. Усяго ад партый абрана 12 чалавек, але ўсе яны фактычна прадстаўляюць праўладавыя партыі: ад афіцыйнай Камуністычнай партыі Беларусі абрана 8 чалавек, ад Аграрнай — 3, ад Ліберальна-дэмакратычнай у "палатцы" будзе засядаць усяго адзін прадстаўнік — Сяргей Гайдукевіч...

Карацей кажучы, чарговая агульнарэспубліканская палітычная кампанія адбылася. Сеанс масавага прамывання мазгоў завяршыўся паспяхова для ўлад. Але, калі задумацца, што ж адбылося 17 кастрычніка ў рэшце рэшт? На нашу думку, нічога нязвыклага альбо дзіўнага. Проста нас падманулі. У чарговы раз...

Колькі яшчэ на шляху Беларусі будзе падобных "элегантных перамог"?

**Віталь ГАРБУЗАЎ, Алесь СІЛІЧ.**

СТОП-КАДР



*Заўтра такога не будзе... (Падчас выбараў у Барысаве на адным з участкаў.)*

**Фота photo.bymedia.net**

## ...Чтобы никто ничего не видел

*Доверенные лица и независимые наблюдатели не были допущены на заседания окружных комиссий в Бобруйске. 17 октября в 19.50 Вячеслава Бортника, доверенное лицо кандидата в депутаты от ОГП по Бобруйскому-Первомайскому округу №64 Анны Готовец, и председателя Белорусской организации Международной амнистии, не допустили на заседание окружной комиссии и отказали в возможности присутствовать в момент передачи избирательных бюллетеней с участковых комиссий данного округа.*

На входе в здание Первомайского райисполкома его остановил работник администрации Юрий Николаевич Лукьянов и пояснил, что председателем избирательной комиссии Бобруйского-Первомайского округа №64 Виктором Даниловичем Горбаневым было дано распоряжение не впускать доверенных лиц кандидатов в депутаты.

Независимому наблюдателю по Бобруйскому-Ленинскому избирательному округу №63 Светлане Статкевич удалось пробиться в здание Ленинского райисполкома, где расположилась окружная избирательная комиссия. Однако с началом поступления избирательных бюллетеней с участковых комиссий данного округа Светлане сначала предложили покинуть помещение, а затем милиционеры с применением силы вытолкали ее на улицу.

*www.charter97.org*

*А.БРАЗАЎСКАС:*

## Еўрасаюз павінен даць ацэнку законнасці рэферэндуму ў Беларусі

Еўрасаюз павінен даць ацэнку законнасці рэферэндуму ў Беларусі аб магчымым працягу паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Літвы **Альгірдас БРАЗАЎСКАС** у інтэрв'ю "Радыё Літва".

"Літва не можа ўмешвацца ва ўнутраныя справы суседняй краіны. Няхай беларускія грамадзяне вырашаюць, як ім жыць", — сказаў прэм'ер-міністр Літвы.

"Але цяпер беларускі рэферэндум — гэта агульная справа Еўропы, бо краіна размешчана ў цэнтры старога кантынента, у прыватнасці, Еўрасаюза, якому і трэба даць ацэнку ўсім працэсам, што маюць месца ў Беларусі, у той час як ЕС вызначае сваю палітыку з новымі суседзямі", — падкрэсліў А.Бразаўскас.

**Марына РАХЛЕЙ.**

РОЗНЫМІ ВАЧЫМА

*Ута ЦАПФ:*

## Падчас выбараў і рэферэндуму ў Беларусі назіральнікі ад АБСЕ зафіксавалі «надзвычай вялікую колькасць парушэнняў»

"Надзвычай вялікую колькасць парушэнняў" зафіксавалі назіральнікі ад АБСЕ падчас выбараў і рэферэндуму ў Беларусі. Аб гэтым заявіла кіраўнік групы назіральнікаў ад АБСЕ **Ута ЦАПФ** у інтэрв'ю, апублікаваным у газеце "Financial Times Deutschland" 18 кастрычніка.

*Уладзімір РУШАЙЛА:*

## Выбары і рэферэндум у Беларусі праходзілі ў адпаведнасці з заканадаўствам

Выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і рэспубліканскі рэферэндум, што адбыліся 17 кастрычніка, праведзены "ў адпаведнасці з нормамі выбарчага заканадаўства, з'яўляюцца свабоднымі, сумленнымі, легітымнымі і транспарэнтнымі". Такія вынікі доўгатэрміновага назірання місіі СНД агучыў на прэс-канферэнцыі 18 кастрычніка кіраўнік місіі **Уладзімір РУШАЙЛА.**

## Депутаты Европарламента признали выборы и референдум в Беларуси недемократичными

О недемократичности и непрозрачности избирательного процесса во время парламентских выборов и референдума в Беларуси заявили в понедельник в Минске на пресс-конференции члены делегации Европейского парламента **Яцек ПРОТАСЕВИЧ** и **Барбара КУДРИЦКА**. Депутаты Европарламента намерены подготовить отчет по итогам наблюдения в Беларуси, на основании которого будет подготовлена резолюция в Беларуси, которая будет представлена на рассмотрение в Европейский парламент. Они намерены рекомендовать ввести визовые ограничения в отношении членов Центральной избирательной комиссии по выборам и проведению референдумов. Таким образом, глава ЦИК Ермошина, которая распространяет "результаты" кампании, в ближайшее время может оказаться "невыездной" наряду с министром внутренних дел Наумовым, генпрокурором Шейманом, министром спорта Сиваковым и командиром СОБРа Павличенко, которых Евросоюз подозревает в причастности к похищениям лидеров белорусской оппозиции.

*"Избирательное законодательство Беларуси не соответствует нормам, принятым в Европе. Но даже это законодательство во многих случаях нарушалось. Мы обязательно сообщим в своем отчете о том, насколько недемократично избирательное законодательство Беларуси и как много нарушений этого законодательства"*, — заявила во время пресс-конференции депутат Европейского парламента **Барбара КУДРИЦКА.**

*"Если подводить итоги наблюдений, то кроме тех правовых норм, которые не применяются ни в одной европейской стране (досрочное голосование, хождение с ящиками для голосования по квартирам, организация ярмарок с продажей разных продуктов питания, в том числе алкоголя на избирательных участках), у меня вызвали большое удивление другие вещи. Во-первых, выборы стопроцентно не были равными. И во-вторых, это не были тайные выборы. Кабины для голосования не были должным образом закрыты, иногда в кабины заходили по 2—3 человека"*, — заявил член делегации Европарламента по Беларуси **Яцек ПРОТАСЕВИЧ.**

*www.charter97.org*

СКАНДАЛ

# У Павла Шеремета — сотрясение мозга

### *17 октября в Минске был жестоко избит руководитель отдела спецпроектов Общественного российского телевидения журналист Павел Шеремет.*



Он находится в 9-й клинической больнице в отделении нейрохирургии.

"Все произошло вчера в 19.30, когда я собирался на пресс-конференцию, где должны были озвучить результаты *экзит-пола,* — рассказывает Шеремет. — Выходя из подъезда, обратил внимание на машину с тонированными стеклами. Там сидели четыре человека. Я еще про себя удивился, что здесь спецслужбы делают, вроде бы все спокойно... Когда садился в машину, ко мне подбежали два молодых человека с криком, что я пристаю к девушке одного из них. Я подумал, что это какое-то недоразумение. Начал объяснять, что ничего не знаю, что я из Москвы приехал ненадолго. Завязалась потасовка. Меня били кулаками по голове. Удары наносили преимущественно сзади. Драка продолжалась несколько минут. Вокруг было много людей. Почти мгновенно появилась милиция. Все это происходило недалеко от Посольства Латвии, рядом с Советским райисполкомом. Милиция сразу скрутила этих двух парней. Мне сказали поехать в РУВД написать заявление о нападении. Я приехал туда, написал заявление. А минут через пять сотрудники правоохранительных органов сказали, что они уже провели свое собственное расследование. Молодые люди, которые избивали меня, написали заявление о том, что это я якобы напал на них и жестоко избил. И поэтому меня должны арестовать. Еще мне предложили подписать протокол. Я собирался написать, что категорически не согласен с тем, что там написано. Подполковник милиции, увидев, что я написал слово "категорически", вырвал его у меня из рук. Я заявил, что если он себя так ведет, то я вообще ничего подписывать не буду.

Меня задержали, забрали все телефоны, шнурки, носки, ремень и отвезли в спецприемник-распределитель на Окрестина.

Мне не давали звонить. Все знали, что я вошел в здание Советского РУВД. А куда потом исчез — неизвестно. Вывели меня через черный вход. Только через несколько часов, уже из больницы, кто-то позвонил моей матери и сообщил, где я нахожусь...

На Окрестина я пробыл три часа. Во время вечернего обхода пожаловался на сильную головную боль и попросил, чтобы пригласили доктора. Доктора у них не оказалось, вызвали "скорую помощь". Врачи сказали, что у меня очень высокое давление и констатировали сотрясение мозга, настояли на срочной госпитализации. Под конвоем меня отвезли в 4-ю больницу, там начали делать обследование. Около 12 часов ночи в больницу приехал подполковник, который меня задерживал в РУВД (он, кстати, не представился). Сказал, что есть решение изменить мне меру пресечения. Меня не арестовали, но вручили повестку в суд на 20 октября.

Парадокс: я — хулиган, злостно избивший двух молодых ребят, с сотрясением мозга нахожусь в нейрохирургическом отделении 9-й больницы, а эти двое живы-здоровы и где-то ходят!.. Кстати, люди видели, как один из этих парней по-приятельски тусовался с курсантами школы милиции, стоявшими неподалеку.

Около двух часов ночи в 4-ю больницу приехали следователи Советского РУВД. Они якобы должны были провести расследование инцидента. Я сказал, что все объяснения уже написал, отказался давать показания, отвечать на их вопросы, что-либо подписывать. В 4 часа ночи они уехали. А меня из 4-й больницы перевели в 9-ю. Врачи говорят, что мне надо пробыть тут минимум неделю..."

Павла Шеремета избивали на глазах экс-главного редактора "Белорусской деловой газеты" журналиста **Светланы Калинкиной.**

***"Я расцениваю данный случай как спланированную акцию спецслужб,*** — говорит Светлана. — ***Судя по всему, произошло какое-то несогласование с милицией: эти молодые люди не могли подумать, что сотрудники правоохранительных органов явятся так быстро.***

***Ребята, напавшие на Шеремета, явно не простые: у них в паспортах лежали ламинированные удостоверения. Поэтому, видимо, Павла в срочном порядке переквалифицировали из потерпевшего в обвиняемого...***

***Я своими глазами видела, как все происходило. Я просила, требовала, настаивала, чтобы меня допросили как свидетеля. Но сотрудники правоохранительных органов даже не посчитали нужным спросить, как меня зовут. Зато они охотно взяли заявление двух парней, написавших, что Павел на них напал.***

***Много людей видели, как все происходило на самом деле. Но никого из них не допросили..."***

В среду Павел Шеремет намерен явиться в суд. Защищать его будет адвокат **Вера Стремковская.**

"Мы это дело так не оставим, — говорит Павел. — Я считаю, что это была провокация со стороны властей, которые решили таким образом меня изолировать. И если бы не мужественная позиция врачей "скорой помощи", врачей 4-й больницы, я бы сейчас находился на нарах".

Стремковская подала в прокуратуру жалобу по поводу незаконного задержания Шеремета с просьбой прекратить административное преследование журналиста и возбудить уголовное дело в отношении тех, кто его избил.

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото photo.bymedia.net**

### *Резонанс*

Министерство иностранных дел России надеется, что белорусские власти предпримут необходимые меры для наказания виновных в нападении в Минске на руководителя спецпроектов Первого канала российского телевидения Павла Шеремета. Об этом говорится в сообщении Департамента информации и печати МИД России, передает РИА "Новости".

*"МИД находится в постоянном контакте с Посольством России в Минске, которое выясняет все обстоятельства случившегося с журналистом российской телекомпании,* — говорится в сообщении. *Выражаем надежду, что белорусские власти предпримут необходимые меры для расследования этого инцидента и наказания виновных.*

Телеканал ОРТ также находится в постоянном контакте с российскими официальными и дипломатическими структурами.

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

## Защитим себя!

Под таким заголовком в минувшем номере "Народной воли" напечатано обращение А.Бухвостова, В.Вечерко, А.Лебедько, С.Калякина, А.Павлова, В.Фролова. В нем говорится: "Известные люди, общественные деятели нашей страны приняли совместное решение о создании **Комитета защиты граждан".**

Уточняем: создается Комитет не как регистрируемая структура, а как **общественная** инициатива, не требующая процедур официальной регистрации.

В ближайшее время авторы общественной инициативы сообщат конкретные координаты для передачи фактов нарушения закона со стороны властных структур и отдельных чиновников.

**Редакция газеты "Народная воля".**

